**№ 72.** 20 кастрычніка 1916 г. Цэна **5** фэн. (**3** кап.).

# ГОМАН

## БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

**ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.**

**Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:**

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.

Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:

М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробныя абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

# Ўступленьне ў Румынію.

## 19 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На поўначы ад Соммы ўчора ізноў быў удачны вялікі баевы дзень. Пасьля цяжкіх бітв адбіта новая спроба англічан прарвацца між Лессар і Морваль. Іх атакі ад раніцы да абеду проці нашых упорна бараніўшыхся, адваёваных у іх назад штыкамі або контратакамі пазыцій, мы адбівалі ўжо сільным, добра кіраваным агнём артылеры.

Невялікая удача у часі аднэй атакі англічан на поўначы ад Окур, Ляббэ і Гэдэкур, а французоў—у Сайі і на палудзенным беразі Соммы між Б'яш і Лямэзонэтт зусім не адпаведаюць з іх цяжкімі крывавымі стратамі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На заходнім беразі Стохода, на поўначы ад Сенявкі, здабыты акопы ворагоў. Пры Бубнове адбіты з вялікімі стратамі у ворагоў штурмы расейскай гвардіі.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Каля праходоў, каторыя вядуць цераз румынскую граніцу, развіваюцца удачныя бітвы.

**Балканскі тэатр:**

*На фронці фэльдмаршалка Макензэна*—без выдатных прыпадкоў.

*Македонскі фронт:* На Чэрнай узняліся новыя бітвы.

---

**Боўгарыя і Расея.**

СОФІЯ. У адозві да арміі Еков кажэ аб Расеі:

„Поруч з нашымі заклятымі ворагамі ваюць з намі войскі Расеі—так-званай нашай „асвабадзіцелкі". Вырвем жэ назаўсёды з нашага сэрца перапоўненага адвагай, пачуцьцё ўдзячнасьці за мінуўшчыну!"

**Лондон без прадуктоў.**

ГААГА. «Daily Mail» даносіць, што 2000 работнікоў на глаўнай таварнай станцыі пачалі забастоўку, каторая задзержывае падвоз спажыўных прадуктоў у Лондон. Аграмадные запасы гэтых прадуктоў папсаваліся. Страты ў дзень—да 10 мільёноў марак. Кіраўнік жалезна-дарожнага Саюза, дэпутат Томас, адмовіўся даць абясьненьня.

---

## З апошніх дзён.

—s—

**Нямецкіе апавешчэньня.**

**17.Х. Заходні тэатр:**

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго:* На многіх мейсцах фронту—работа патрулёў і агонь.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Наабапол Соммы—вострая артылерыйская бітва. У вечары на поўначы ад рэкі на фронці Гэдэкур—Сайі, а на поўдні—на фронці Фрэн—Мазанкур пачаліся штурмы. Пры Гэдэкур штурмы разбіты агнём. Пры Сайі і Фрэн яны адбіты штыкамі; у невялікай часьці акопоў бітва на штыкі ешчэ трывае.

Нашы лятуны збілі 6 самалётоў ворагоў, у тым ліку 3—над лініямі ворагоў. Бэльке ізноў збіў 2 ворагоў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У Аргоннах і ў ваколіцах Маасу мейсцамі вострыя артылерыйскі агонь.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На фронці Лінзінгена, на заходзі ад Луцка, і Бэм-Эрмолі, пры Нараёўцы, пабедна адбіты сільные атакі ворагоў; расейцы ізноў дарма зглумілі вельмі многа войска. Ад самай раніцы сьвежа-падвезеные і нанова папоўненые часьці 10 разоў штурмавалі бывшые пад сільным агнём артылеры нашы пазыціі між Сенявкай і Зубільным і аўстрыяцкіе пазыціі пры Затурцах. На адрэзку Пустомыта—Бубнов пасьля артылерыйскай падгатоўкі тры разы пачыналіся сільные штурмы, паддзержаные артылерыей. Агонь артылеры проці пазыцій гр. Ботмэра каля палудня дайшоў вялікай сілы і трываў да цёмнаго; ён спыняўся толькі паўторэнымі штурмамі ворагоў. Усе пешые штурмы тут адбіты; у ворагоў—цяжкіе страты. Нашы стральцы гвардіі і помэранскіе грэнадзеры гналіся за адкінутымі ворагамі, здабылі пярэдніе іх акопы шырынёй на 2 кілёмэтры і ўзялі 36 афіцэроў, 1900 салдатоў і 11 кулемётоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Наступленьня расейскіх батальёноў пры Яніцы, на поўначы ад Station Станіслава, не ўдаліся—гэтак сама, як і наступленьне на вяршыну Коман у Карпатах. На палудні ад Дорна Варта нашае войско здабыло вяршыну на ўсходзі ад Нэагра.

*Семіградзкі фронт:* На дарогах цераз праходы і на ўсходнім фронці румыны аказваюць адпор. На палудні і на заходзі ад катлавіны Кронштадту—без перамен.

**Балканскі тэатр:**

**У Добруджы** нічога новаго.

*Македонскі фронт:* Атакі пры Градэсніцы (на палудні ад Манастыра), на Чэрнай і на поўначы ад Нідзэ Планіна адбіты.

**18.Х. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Артылерыйская бітва на шырокіх адрэзках, асабліва на поўначы ад Соммы, дайшла значнай сілы. Англічане атакавалі між Лессар і Гэдэкур; між Лебэф і Ранкур—французы. Наш нішчучый агонь, кіраваны на напоўненые дзеля штурму людзьмі акопы ворагоў, стрымаў атаку наабапол Окур—Ляббэ ў самым яе пачатку. Пры Гэдэкур ішлі вострые штыкавые бітвы, ў каторых мы удзержалі ўсе свае пазыціі. Штурмаваўшые на фронці Морваль—Ранкур французы пасьля вострай бітвы адбіты. У Сайі ворагі ўварваліся на нашы пазыціі; бітва там ешчэ трывае. Наступленьня ворагоў пры Тіэпваль, Курсэлет і Бушавэнь не далі ім нічога. Пяць самалётоў ворагоў збіты ў бітвах на паветры.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На ўсходнім беразі Маасу—значная баевая работа.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Пасьля адбітых з вялікімі стратамі сільных расейскіх атак на заходзі ад Луцка ворагі абмежываліся толькі сільным агнём артылеры. Проці аўстрыяцка-вэнгерскіх пазыцій пры Зьвежыне, на паўночным заходзі ад Заложа, штурмаваўшая пяхота ворагоў з вялікімі стратамі адкінута агнём назад у свае акопы. На заходнім беразі Нараёўкі, на палудзенным заходзі ад Гэрбутова, баварскіе батальёны пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі атакавалі расейскі апорны пункт і ўзялі 2 афіцэроў, 350 салдатоў і 12 кулемётоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Пры Быстрыцы Солотвінскай штурм проці нашых пярэдніх пазыцій адбіт. У Карпатах вяршына Людова была пад сільным агнём артылеры. На адрэзку Кірлі Бабы атакі адбіты.

*Семіградзкі фронт:* Агульнае палажэньне не змянілося.

**Балканскі тэатр:**

*Македонскі фронт:* Сільны агонь артылеры прыгатаваў на заходзі ад чыгункі Бітолія—Флорына і на поўначы ад Нідзэ Планіна мейсцовые атакі ворагоў, каторые не ўдаліся. Боўгары здабылі сэрбскае гняздо на паўночным беразі Чэрны.

**Падводная вайна.**

БЭРЛІН. Камэнданту падводнай лодкі «U 35» далі ордэр «pour le Merite». Ен затапіў у Сяродземным моры 126 параходоў агульнай ёмкасьці 270.000 тонн, у тым ліку 1 францускі і 1 англіцкі малы крэйсэр, некольки памочных крэйсэроў (францускіе «Gallia», «Province» і англіцкі «Mineapolis»), вялікае чысло транспортоў з войскам і ваенными матэр'яламі, каторые пасылалі ў Салонікі. Вартасць затопленых «U 35» параходоў і іх паклажы даходзіць каля 450 мільёноў марак.

---

**Гл. тэлеграмы на 4 страніцы.**

фальшывую дарогу. Відаць, ёсць людзі, каторые ня хочуць дапусьціць да таго, каб споркі між кватэрантамі і дамаўласьнікамі разбіраліся ў угодлівай камэры, і гэтые людзі стараюцца ўсемі сіламі працівіцца устанаўленьню арбітражу. Але, ня гледзячы на іх баламуцтвы, арбітражная камэра наладзілася — гэта ўжо бязспорны факт, і гэтымі днямі яна пачне свае чыннасьці у спэцыяльным памешчэньні, а каторым мы у свой час паведомім нашых чытачоў.

## „Хам“.

*(Думкі і уражэньня с спэктаклю).*

Мова, песьня, вера, бацькаўшчына—гэта найвялікшае багацьце вольнага грамадзяніна. Бацькаўшчыну кожын любіць іначэй—па-своему, але найбольш сьвядома, найбольш шчыра і горача любіць яе тады, калі яе утраціў. Вось, беларусы пад расейскім панаваньнем як бытцым былі утрацілі бацькаўшчыну, — і затым то яны цяпер так ярка выяўляюць любоў да яе.

Гэта любоў выяўляецца у тэй рожнароднай рабоці, якую яны цяпер вядуць. Аднэй с праяў яе служыць і праца над адбудаваньнем беларускай сцэны, на каторай мы бачылі ў нядзелю «Хама» Ожэшковай. І, вярнуўшыся з гэтага прэдстаўленьня, я не задзержывалася над пытаньнямі, як ігралі, што ў тэй ігрэ было добра і што слаба: я толькі дзівілася, як гэта малая жменя людзей, астаўшыхся на мейсцы ня гледзячы на ваенные выпадкі, не паддалася упадку духа, бы тая Пронка на сцэне, а выяўляе сваю творчую энэргію ў ярких постацях.

Сам выбар п'есы гаворыць за сябе. Рэч дзеецца ў беларускай вёсцы—над родным, дарагім кожнаму з нас Нёманам. Пішучы гэтые словы, я ўспамінаю магутную, вялікую, гасьцінную красуню Волгу, каторая калісь-то ачаровывала мяне сваей веліччу, сваім раздольлем, песьнямі, — і ўсё-ж такі родны Нёман, бытцым чараўнік, так дзіўна цягне і вабіць да сябе, так дзіўна любы сэрцу наднёманскіе песьні... Як бы табе ні навязывалі чужую мову, веру, песьню,—нічога: сваё роднае будзе заўсёды мілейшым, і толькі на сваім грунці можна выявіць найвялікшую творчую сілу. Возьмем музыку: зыкі яе самі гаворапь за сябе. І калі вялікі композытор Шопэн, каторы, пражыўшы нейкі час у Бэрліне і сьледуючы за другімі, напісаў немала вальцоў, уступае Штраўсу, раўнуючы да цудоўных вальцоў апошняго,—дык ён стаіць на недасьціглай вышыне ў сваіх полёнэзах і мазурках, адкрываючы ў іх сваю душу і несьвядома адбіваючы ў сабе нядолю і мукі сваей другой бацькаўшчыны — Польшчы, замучэнай у расейскай няволі. І хоць сам Шопэн, як кажуць яго біографы, ніколі не стараўся тварыць польскай музыкі, дух яго маткі—полькі адбіваўся ў яго найлепшых творах. Каб жэ Польшча не пагібла, каб не перажыла мучэніцтва, — ці стаўся-бы Шопэн усей душой сваей патрыотам?..

Гэтак і ў кожнай артыстычнай творчай працы бывае. Гэтак дзеецца і у беларусоў, каторые толькі цяпер адбудоўваюць сваю бацькаўшчыну.

Гэтые думкі вызвала ў мяне пастаноўка беларускай драматычнай дружынай «Хама». Трэба адзначыць, што дружына не пашкадавала сваіх сіл, каб зыграць гэту п'есу сумленна і нават с талентам. Роль Пронкі—гэта вякікая, трудная роль, але прайшла яна добра: артыстка перасіліла ўсе труднасьці. Роль Паўлюка іграў сур'ёзны артыста, каторы стварыў тып жывы, без шаржу, не ганяючыся за танным эффэктам. С пад'ёмам, нават з некаторым задорам і с талентам іграла Аўдоцьця; удачна выйшоў і тып жэбрачкі Марцэлькі — хітрай, няшчырай бабы. Рэшта іграўшых дапоўнілі дружна ўвесь абраз.

Публіка шчыра вітала маладую беларускую дружыну, выказваючы сваю падзяку гарачымі оплескамі і вызываючы іграўшых некольві разоў пасьля спуска куртыны. Пронцы падалі кветкі. І хоць суровы крытык мог бы тое-сёе зганіць,—выйшоўшы с тэатру я захавала надоўга сільнае ўражэньне у глыбі душы.

—т.

## Апавешчэньня.

I.

Асобы, каторые перашкодзяць у падпалі або заявяць аб праекці падпалу, і праступнік будзе задзержан, атрымаюць награду найменш 200 марак.

Etappen-Inspekteur
падп. Мадлюнг.
Generalleutnant.

II.

Каб дайсьці числа годных для ваеннай службы каней, каторые знаходзяцца у прыватных асоб у межах пашырэнаго віленскаго местоваго округа,

23 і 24 кастрычніка 1916 г. адбудзецца спіс каней на Лукішскім пляцу.

Валадзельцы павінны прывясьці сваіх каней:

**23 кастрычніка** а 8 **гадз. раніцай** — з 2, 4, 5, 6 і 7 міліцыйных участкоў;

**24 кастрычніка** а 8 гадз. **раніцай** — с 1, 3, 8 і 9 міліцыйных участкоў;

23 **або 24 кастрычніка а** 8 **гадз. раніцай** — з ваколіц і хутароў пашырэнаго местоваго округа.

Коні на Лукішскім пляцу разстаўляюцца па загаду назначэных дзеля гэтаго паліцэйскіхураднікоў (чыноў).

**Хто спозьніцца або не прывядзе каня, таго жджэ кара.**

Каней цяпер адбіраць ня будуць, і яны будуць астаўлены у іх гаспадароў да ужытку. Пры спісе кожнаму каню будуць стаўляць клеймо.

Каней, каторые пасьля 24 кастрычніка будуць заўважэны без клейма, будуць задзержываць і адбіраць ураз-жэ ад іх гаспадароў.

Вільна, 16 кастрычніка 1916 г.

Der Deutsche Stadthauptmann
з. м. **Pilz.**

## З усяго Краю.

### Спажыўные справы.

ГРОДНА. Аддзел спажыўных прадуктоў пры Stadthauptmann'е наладзіў пры Паліцэйскай вуліцы сушыльню, ў каторай маюць работу некольві кабет. Скупляные у акалічнаго насяленьня пятрушка, сьлівы, грыбы, бручка сушацца ў сушыльні ў асобнай печы.

Перш за ўсё спажыўные прадукты прадаюцца народным страўням, дабрачынным таварыствам і т. п.

### Слушная кара.

ГРОДНА. Дамаўласьнік Шмуль Гляс за цяжкі прыпадак пасрэдніцтва ў распусьце засуджэн на 6 месяцоў у вастрог і на 1100 руб. штрафу, каторы можэ быць заменен годам вастрогу.

### За душэгубства.

ОЛЬШЭВО. Лідзк. пав. Гаспадар Констанцін Мазалеўскі за душэгубство і спробу забіць чэлавека засуджэн на сьмерць і на дажывотны папраўчы дом.

### Конфіскацыя скур.

БЕЛАСТОК. Ваенная паліція у таргоўца Льва, пры Купецкай вуліцы, знайшла 39 скур, а ў таргоўца Штэйнморда пры Магільнай вуліцы — 45 скур і 10 пар халяў. Усю скуру сконфіскавалі.

### Сход стараст.

СУВАЛКІ. У местовай управе адбыўся сход стараст сувалкскаго округа с 140 вёсак. Больш за ўсё гаварылі аб будові загарадзей ад сьнегу наабапол дарог.

### Новы градачальнік.

СУВАЛКІ. Міравы судзьдзя Лоос пераводзіцца ў Беласток дзеля спаўненьня павіннасьцей градачальніка.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

### Работа нямецкіх падводных лодак.

МАЛЬМЭ. С Пецярбурга даносяць, што да 11 кастрычніка затоплены 34 параходы, каторые адпраўлялі ў Александроўск на Мурманскім беразі і ў Архангельск. За 9 параходоў з амуніціей адпаведае расейскае правіцельство, каторае прыняло іх на свой адказ.

### «Апека» над румынамі.

ЛОНДОН. «Morning Post» даведалася с Пецярбурга, што 1 і 2-ой румынскімі арміямі камандуе расейскі генэрал.

### Мусульмане—дэзэртэры.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Мусульмане ў расейскай ваеннай формі прыбылі сюды с Каўказу і заявіліся ў паліціі.

### 33 мільёны ў дзень.

ЛОНДОН. Як пішэ «Экономіст», расейскіе выдаткі на вайну даходзяць 33 мільёноў рублёў у дзень. За апошні год яны падвоіліся проці таго году і растуць усё болей.

### Паперкі замест медзі.

ПЕЦЯРБУРГ. С прычыны недахваткі медзі медзяные монэты збіраюцца і заменяюцца паперовымі грашмі, падобнымі да пачтовай маркі. З аднаго боку на іх партрэт цара, з другога—надпіс аб цэне. Гэтые паперовые грошы выпушчэны на вялікую суму і імі плацяць салдатам.

### Экономічные справы.

КОПЭНГАГА. Міністэр фінансоў Барк заявіў, што рост багацьця народу тлумачыцца аграмаднымі ваеннымі заказамі. Больш за 18 мільярдоў рублёў, выданых на ваенные патрэбы, асталіся ў Расеі, і з гэтай прычыны можна будзе павялічыць падаткі і пошліны. Дзеля выпаўненьня задач, намечэных на пасьля вайны, ужо праектуецца некольві новых падаткоў.

Гэтымі днямі ў Расею прыедзе італьянская дэпутація, зложэная с прэдстаўнікоў італьянскіх тарговых палат, каб наладзіць расейска-італьянскіе тарговые зносіны.

ШТОКГОЛЬМ. Асоба, прыбыўшая з Расеі, апаведае:

Цэна спажыўных прадуктоў узрастае безупынна. Колоніальных тавароў, коркоў і т. п. зусім німа. Сьвечы можна даставаць толькі крадзеные на чыгунцы. Усе скуры ідуць толькі для войска. Пара самых простых ботоў каштуе 32 рублі. Пуд аўса—2 р. 40 к., пуд жыта — 2 р. 70 к., ячменю — 2 р. 20 к., пшаніцы—3 р. 40 к.

### Сьмяхотные праекты.

ПЕЦЯРБУРГ.. «Правіт. Вестнік» друкуе гэткую цікавую вестку: „У кругах амэрыканскіх інжэнероў з'явіўся праект злучыць Ледавіты акіан з Ботнічэскім залівам, выкапаўшы канал. С прычыны таго, што ў Ледавітым акіані вада стаіць на 2 мэтры вышэй, чым у Ботнічэскім заліве, дык у канале вада будзе шпарка ісьці. Што-годны даход з гэтаго каналу аблічаюць на 50 мільёноў (sic!) рублёў“. Вельмі дзіўна, што газэта расейскаго ураду мае час у такі сур'ёзны момэнт друкаваць падобные сьмяхотные чуткі.

### Земство для... Прыбальтыцкаго Краю.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). Міністэрство ўнутрэных дзел працуе над новым праектам закона аб закона аб завядвеньні земскаго самаупраўленьня ў Прыбальтыцкіх губэрнях!

### «Усеславянскіе» брэдні.

ОДЭССА. Сэрбскі дыплёмат Марк Земовіч с пазваленьня расейскай цэнзуры выпусьціў у сьвет кніжку пад названьнем: «Мір і міжнароднае роўнаправіе». Земовіч з гордасьцю кажэ, што Сэрбія вызвала сусьветны пажар. «Ад 1908 да 1914 году слабасільнае, маленкае славянскае гасударство асьмелівалося кратаць цяжкааружны эўропэйскі мір. Палудзенные славяне безупынна крычалі немцам і мад'ярам: Мы вас не баімося! За намі стаіць Сэрбія, а за Сэрбіей—Расея і яе саюзьнікі!» Палудзенные славяне сараеўскім прыпадкам прымусілі Аўстрыю выступіць проці Сэрбіі. Земовіч канчае сваю кніжку: «Здаецца, што пасьля трох войн, якіе Сэрбія вела праз 4 гады, нават пасьля страшэнств цяперашняй вайны Сэрбія будзе прымушэна прыступіць да падгатоўкі новых войн».

### Сьмерць жыдоўскаго паэта.

ОДЭССА. 20 верэсьня тут памёр жыдоўскі паэт, Сімон Фрук. Жыдоўская літэратура у яго асобі траціць пасьля Шолом Алейхэма і Пэрэца свайго трэйцяго найбольш выдатнаго прэдстаўніка.

## З усяго сьвету.

### Папеж і японцы.

РЫМ. Папеж у спэцыяльнай аўдыэнціі прыняў надзвычайнаго японскаго пасла.

### Жаданьня соц.-дэм.

БЭРЛІН. Соцыял - дэмократы прэдлажылі ў Рэйхстагу скасаваць стан асады.

БЭРЛІН. У Рэйхстагу ў часі гутарак аб цэнзуры друкоў соцыял-дэмократы жадалі аднаўленьня свабоды друку.

### Сьмерць Філіпэску.

ПАРЫЖ. Паводлуг газэт, у Букарэшці памёр адзін з глаўных вінавайцоў выступленьня Румыніі, Філіпэску.

### Сьмерць Кэровіча.

САРАЕВО. Некольні дзён таму назад прылажыўшый руку да эмовы на жыцьцё эрц-гэрцога Франца-Фэрдынанда Кэровіч памёр у ваеннай турме.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

### Да налётоў на Лондон.

БЭРЛІН. С пэўнай крыніцы даносяць, што ў часі налёту цэпэліноў 23 верэсьня ў Лондоне зусім эруйнованы або шмат папсованы больш за 100 будоўлі. Шкоды эроблена больш як на 100 мільёноў марак. Рэджэнт Стріт, главная торговая вуліца ў Лондоні, большай часьцю зніштчэна. У палудзеннай часьці Лондона зніштожэна фабрыка амуніціі і дзьве фабрыкі консэрвоў.

Па налёці 2 кастрычніка апынуліся без хаты 200 сямей с прычыны зніштажэньня іх дамоў. У Грімсбі эруйнована казарма; загібло 400 салдатоў. Адзін таварны поезд з 12 вагонамі каней зніштчэн зусім.

### Гвалты над Грэцией.

АФІНЫ. Высадка францускіх афіцэроў і матросоў у форці Пітэй трывае далей.

Саюзьнікі сконфіскавалі грэцкіе ваенные параходы «Георгіос Аваров», «Кількіс» і «Лемнос». Грэцкіе матросы з іх адосланы на сушу—у Афіны.

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 16. X. Усходні тэатр: Фронт эрц-гэрцога Кароля: На вэнгерска-румынскай граніцы бітвы трываюць далей. На палудні ад Дорна Варта мы перакінулі рассейцоў цераз ручэй Нэгрэа, узялі ў палон 1 афіцэра, 217 салдатоў і здабылі 2 кулемёты. Пры Кірлі Бабе ў апошніх бітвах узяты 5 афіцэроў, 1097 салдатоў і 5 кулемётоў; на Смотрэцу—3 афіцэры, 381 салдат. У ваколіцах Людовай баварскіе батальёны здабылі адну пазыцію ворагоў.

Фронт Леопольда Баварскаго: Пры Нараёўцы, на верхнім Сэрэце і на палудзенным заходзі ад Бродаў група армій Бэм-Эрмолі баранілася ад сільных атак. Ворагі ўсюды адбіты з вялікімі стратамі. Армія Тэрчнанскаго цэлы дзень была пад цяжкім агнём рассейцоў. Наабапол Затурцоў пяхота ворагоў некольні разоў вела атакі вялікімі сіламі. Ворагі ізноў былі крэпка пабіты.

Італьянскі тэатр: У бітвах пры Собэры нашае войско ўзяло двох афіцэроў, 212 салдатоў і 3 кулемёты.

ВЕНА 17.X. Усходні тэатр: (гл. нямецк. апав.).

Італьянскі тэатр: Без выдатных прыпадкоў.

ВЕНА, 18.X. Усходні тэатр: (гл. нямецкае апавешч.).

Італьянскі тэатр: Значные сілы ворагоў атакавалі ўчора ў вечары нашы пазыціі на Монтэ Тэсто, Ройд і на поўначы ад вярпшыны Пасубіо. Яны крывава адбіты. У некаторых мейсцох на фронці даліны Флеймсу і ў Доломітах, а таксама на плоскагоры Карст быў даволі сільны агонь артылеры.

# Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Cassel.

**10 компанія.**

Баневіч Вінцэнты, Засьценкі.
Любас Язэп, Смольнікі.
Мальшэцкі Станіслаў, Дэрэвлішкі.
Шадзюль Казімір, Ліда.
Уродоўскі Адам, Зарэчнік.
Валаткевіч Баўтрамей, Троцк.
Амбрэс Якаў, Мэшоні.
Блюй Франц, Пілюнскі.
Дзевенткоўскі Вінцэнты, Засьценкі.
Кульбіцкі Казімір, Левкішкі. [кі.
Калінскі Хрысьціян, Залесьсе.
Рызман Сауман, Дзісна.

**11 компанія.**

Васілеўскі Антон, Лумачэв.
Зусэк Ян, Верабей.
Оніско Іван, Остряно.
Камінскі Бэн'ямін, Дуброва.

**12 компанія.**

Камінскі Станіслаў, Нашляны.
Лось Фаб'ян, Годінцы.
Лукашэвіч Міхаіл, Вільня.
Марцінкевіч Александар, „
Ольшэўскі Язэп, „
Мілэйша Міхал, Забаліны.
Стасевіч Франц, Вільня.
Высоцкі Броніслаў, Мусьнікі.
Тарашкевіч Міхал, Вільня.
Максімовіч Станіслаў, „
Залевіч Язэп, Веліцяны.
Айсін Хаім, Вільня.
Айсін Майсей, „
Бэркман Лейзэр, Вішнево.
Домоўскі Ошэр, Вільня.
Эдэльштэйн Якуб, „
Эйгэль Ізаак, „
Кац Гезэль, „
Крэскін Рувін „
Лур'е Вульф, Вільня.
Масельнік Нахман, „
Рожанскі Лейба, Шчучын.
Залкінд Лейба, Вільня.
Зак Альтэр, „
Зак Мэйер, „
Шапсэль Юдэль, „
Тороб Лейба, „
Вальдбэрг Абрам, „
Турылло Пётр, Ланіко.

### Табор для ваенна-палонных Oberhofen.

Лукашэвіч Пётр, Цацкі.
Боговец Іван, Руднікі.
Коробанов Іван, Лясовічы.
Леоновіч Александар, Шэрсьцяноў.
Ляскоўскі Айрон, Грыбовічы.
Марковіч Аляксей, Перэбродзьдзе.
Путырскі Васіль, Калодкі.
Капцух Мікалай, Коловічы.
Карповіч Васіль, Сокольнікі.
Лукохва Язэп, Пісты.
Петрашка Андрэй, Яраўно.
Заяц Ціхон, Антонова.
Зарунтоў Александар, Воронічы.
Жырнэль Васіль, Кільтарск.
Жораў Іван, Гранчэнкін.
Васюкевіч Владзімір, Іваноўка.
Грыцэ Сямён, Грыцы.
Коналеў Лук'ян, Елоб.
Мураўёў Ілья, Зільчура.
Політарчык Станіслаў, Крамоў.
Тарасоў Сямён, Вільня.
Матуліс Адам, Бастуны.
Тарасевіч Констанцін, Чэрняўка.
Ламбутіс Антон, Масвілечкі.
Зівановіч Язэп, Губэкі.
Стальшнскі Іван, Лісьсе.
Томашэвіч Нэстор, Вільня.
Вэнгроўскі Іван, Шмількі.
Войткевіч Язэп, Вільня.
Воронко Язэп, Рэзоў.
Лошайкоў Владыслаў, Ромашкан-
Паледа Казімір, Повшолі. [цы.
Жылінскі Констанцін, Дочванцы.
Мадэкша Станіслаў, Ленкоўшчына
Ермоловіч Антон, Лопаты.
Голэмбеўскі Міхал, Зарэчын.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.